# Мытня «дае згоду»



2 стар.

# “Настальгія” па мілітарызму



5 стар.

# «Азерцы»: вёска і сядзіба



6 стар.

ПЛЮС TV

ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, УШАЧЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# Вольнае Глыбокае

http://vglybokaye.promedia.minsk.by

Выдаецца са снежня 1994 года | № 16(107) 18-24 красавіка 2002 года | Кошт па дамове

## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

Марш пратэсту "Так жыць нельга!" пачнецца ў Мінску ў пятніцу, 19 красавіка, а 18.00 з плошчы Якуба Коласа. Пра гэта заявілі арганізатары акцыі. Між тым, Мінгарвыканкам дазволіў правесці толькі мітынг. Арганізатары, сярод якіх кінарэжысёр Юры Хашчавацкі і праваабаронца Валер Шчукін, называюць сваю акцыю "сацыяльнай".

У другой палове красавіка на кінастудыі "Беларусьфільм" рэжысёр-пастаноўшчык з Санкт-Пецярбурга Дзмітрый Астрахан пачне працаваць над некалькімі новымі праектамі. Апрача таго, неўзабаве на базе "Беларусьфільма" распачнуцца здымкі чарговага цыкла расійскага тэлесерыяла "Каменская". Цяпер на мінскай кінастудыі вядзецца праца над стварэннем дзвюх беларускіх мастацкіх стужак - "Анастасія Слуцкая" і "Лялька", а таксама над некалькімі хранікальна-дакументальнымі і анімацыйнымі творамі.

Паўторных выбараў у некалькіх акругах патрабуюць апазіцыйныя сілы на Украіне. Між іншым, блок Юліі Цімашэнкі мае звесткі, што яго кандыдаты, а таксама камуністы, сацыялісты і блок "Наша Украіна" атрымалі крыху больш галасоў, як тое падаў Цэнтравыбаркам. Апазіцыя сцвярджае, што афіцыйныя звесткі сфальсіфікаваныя на карысць урадавага блока "За єдину Україну!".

На адным з пляжаў паўночнага ўзбярэжжа Пуэрта-Рыка ляжыць 6-метровая баявая ракета ВМС ЗША. Ракета знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці ад таго месца, дзе часцей за ўсё купаюцца дзеці. Ракету знайшлі рыбакі ў прыбярэжных водах непадалёк горада Арысіба і выцягнулі на бераг. Прадстаўнікі ВМС прыбылі на месца і ачапілі ўсю навакольную тэрыторыю.

Суд над баснійскім сербам, якога абвінавачваюць за генацыд, пачаўся ў панядзелак у Гаазе. 40-гадовага Міламіра Стакіча абвінавачваюць за ўдзел у масавых забойствах мусульман і харватаў у горадзе Прыедор у час вайны ў Босніі на пачатку 1990-х гадоў.

# 24 красавіка
## Міжнародны дзень салідарнасці моладзі



*Фота IREX /ProMedia*

## Па вобласці

З пачатку года памерла 1077 чалавек.

Адбылося 80 пажараў, страты ад якіх склалі 31 млн. рублёў. У агні загінула 9, выратавана 2 чалавекі, аказана дапамога ў 6 выпадках. Агнём знішчана 37 і пашкоджана 58 пабудоў, 9 тон кармоў.

Інспектарамі па ахове рыбных рэсурсаў і паляўнічых відаў жывёл затрымана 102 парушальнікі правілаў прыродаахоўнага заканадаўства. У іх канфіскавана 91 сетка, 4 паляўнічых ружжа і 22 іншых забароненых прылады лову. Парушальнікі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

## Тарыфы ўраўняюцца

**З 1 траўня гэтага года тарыфы на энерганосбіты ў Расіі і Беларусі будуць аднолькавымі. Беларускія тарыфы будуць прыроўненыя да ўнутрырасійскіх.**

Пра гэта заявіў прэзыдэнт Расіі Уладзімір Пуцін па заканчэнні пасяджэння вышэйшага дзяржсавета “саюзнай дзяржавы” Расіі і Беларусі.

Беларускія тарыфы на чыгуначныя перавозкі будуць прыроўненыя да ўнутрырасійскіх з 1 ліпеня, адзначыў Уладзімір Пуцін. Паводле ягоных слоў, на пасяджэнні вышэйшага дзяржсавета дасягнута дамова аб стварэнні сумеснага акцыянернага таварыства, якое аб’яднае сістэму газапровада, што праходзіць па тэрыторыі Беларусі. Першы этап яго стварэння завершыцца на працягу гэтага года.

*lenta.ru*



# Прыемная навіна!

газету **“Вольнае Глыбокае”** ўжо можна выпісаць і на Ушаччыне!

**На здымку:** г.п. Ушачы. Рэстаўрацыю псеўдагатычнага касцёла праводзяць польскія спецыялісты.

**Надвор`е*** Агляд складзены па дадзеных за 16/04/2002 0:00 GMT

| | 18/4 Чц | 19/4 Пт | 20/4 Сб | 21/4 Нд | 22/4 Пн | 23/4 Ат | 24/4 Ср | 25/4 Чц |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тэмпература: з 14 гадзін | +13 | +13 | +17 | +16 | +16 | +13 | +11 | +11 |
| з 2 гадзін | +7 | +7 | +7 | +9 | +7 | +10 | +9 | +6 |
| Ціск, мм рт.сл. | 747 | 748 | 749 | 749 | 751 | 753 | 755 | 755 |
| Тэндэнцыя ціску | +2 | +1 | +1 | -1 | +2 | +2 | +2 | +1 |
| Накірунак ветру | Пн-У | Пд-У | Пн-У | Пд | Пн | Пн-У | Пн-У | Усх |
| Хуткасць ветру, м/с | 2 | 3 | 1 | 4 | 1 | 3 | 3 | 3 |

© Gismeteo.Ru

Заўвага: прагноз надвор`я ў нашым рэгіёне складзены ў прывязцы да г. Полацка

Падпісны індэкс на газету “Вольнае Глыбокае” -- 63668. Кошт падпіскі на месяц -- 1000 руб., на квартал -- 3000 рублёў.

**Нагадваем, што наша выданне таксама можна выпісаць і на Пастаўшчыне.**

# У якую краму Вы пойдзеце?

**Апошнім часам у Глыбокім, як нідзе ў заходнім рэгіёне адчыняецца шмат крамаў. Яны растуць, як грыбы пасля дажджу. У гэтай сітуацыі павінна быць вельмі жорсткая канкурэнцыя -- барацьба за пакупніка. Якія ж з прыватных крамаў больш за ўсё падабаюцца жыхарам нашага горада? Вось такое пытанне мы і вырашылі задаць нашым рэспандэнтам. І вось якія мы атрымалі адказы.**



**Таіса Генадзьеўна:** Я больш аддаю перавагу дзяржаўным крамам. Прыватных крамаў, як такіх я лічу ў Глыбокім няма, ёсць ларкі. але ж усёткі вельмі прыемна туды зайсціся: вялікі асартымент і выдатнае абслугоўванне.



**Завадскі Дзіма:** Гэта, безумоўна, «Калібры».



**Юля і Дыяна:** Магазін «Трыо», які знаходзіцца на плошчы «17 верасня»



**Уладзімір Мікалаевіч:** Магазінаў так шмат, што нават цяжка і выбраць. І ўсё ж, напэўна, самы вялікі і самы багаты -- гэта «ВінКан»



**Таня:** Асабіста мне вельмі падабаецца магазін «Лілея»



**Яўгенія Антонаўна:** Тры магазіны ў раёне МКК. Часта туды заходжу, ды і асартымент там вялікі.



**Пётр Мікалаевіч:** Любімыя магазіны «Клубнічка» і «Крышталь»

**Апытанне праводзілі:** ***Андрэй Храпавіцкі і Васіль Саланінка***

# Мытня "дае згоду"

**Гісторыя гэта адбылася з адным маім знаёмым гадоў пяць таму. У той час масава пераганялі патрыманыя іншамаркі з Шчэцінскага рынка ў краіны былога Саюза. Вось і мой знаёмы, назавём яго Косця, таксама адправіўся ў Польшчу купляць сабе «аўто».**

І вось ужо Косця імчыць на ўласным "Рэно" па дарозе дадому. Засталіся ззаду хваляванні аб тым, як правезці за мяжу валюту, як купіць добрае і недарагое «аўто», двое сутак чаргі на мяжы, праверка на камп'ютары машыны на прадмет угону. Засталіся дробязі: заплаціць мытную пошліну, як народ называе – растаможку, і паставіць яе на ўлік у ДАІ. Але з-за гэтых "дробязей" згубіў наш герой нямала часу, грошай і нерваў.

Прыехаўшы дадому, па традыцыі, чатырохколавага сябра «абмылі» з сябрамі, каб той добра вазіў свайго гаспадара. Потым яшчэ дзень давялося кідаць па сябрах і знаёмых, каб памяняць "зялёныя" на беларускія рублі, бо афіцыйны курс у той час значна адрозніваўся ад курсу "чорнага" рынку. Абмяняўшы больш за шэсцьсот долараў, склаўшы грошы ў вялікую сумку, прымчаў Косця на мытню ў Паставы. Наіўны, ён думаў, што за тое, што ён прывёз у дзяржаўную казну столькі грошай, яго тут будуць насіць на руках. Такіх, як ён, сабралася тут чалавек дваццаць. Косця быў сёмы ў чарзе, але дарэмна ён радаваўся, што хутка ўсё пройдзе. Ды дзе там! Мытня працавала не спяшалася. Мытнікі палілі цыгарэты, расказвалі адзін аднаму розныя гісторыі, як быццам перад тым яны не бачыліся некалькі гадоў. Гледзячы на іх дабразычлівыя і задаволеныя твары, Косця падумаў: "А яшчэ яны некага лаяць за развал Саюза, гэта колькі ж такіх дзеячоў у выніку гэтага атрымалі працу, ды не самую дрэнную."

Людзі чакалі пад дзвярыма гадзіны дзве, нарэшце, гадзін каля дзесяці пачалі афармленне дакументаў. На чалавека затрачвалася ў сярэднім паўгадзіны, таму пакуль дайшла чарга Косці, настаў час абеду. Праклінаючы мытныя парадкі, Косця павалок ногі ў бліжэйшую сталоўку. Пасля абеду, нарэшце, трапіў Косця ў кабінет. Глянуўшы на яго так, як бог бы паглядзеў на чарвяка, гаспадар папрасіў Косцю прысесці. Паглядзеў у паперы і нешта прабурчаўшы, мытнік сказаў: «Так, во сколько вы её оцениваете?» Косця назваў суму. Начальнік буркнуў: "Этого мало, придётся написать больше". Ну, рабіць няма чаго, болей дык болей. "А почему вы не написали номер двигателя?"—зноў ён запытаў Косцю. Гэта было самае набалелае пытанне, бо перад мытняй Косця абгледзеў рухавік з усіх бакоў, нідзе не знайшоў ніякай таблічкі. Напісаўшы "б/н", што азначала "без нумара", як яго навучыў адзін знаёмы, Косця думаў, што вырашыў усе праблемы. Але прабыўшы за мяжой усяго тры дні, ён забыўся, у якой краіне ён жыве. Абыйшоўшы машыну з усіх бакоў, пачмякаўшы, мытнік нарэшце вынес свой вырак: "Придётся вам ехать в Минск, в Белорускую политехническую академию, определять абъём двигателя". "А тут гэтага зрабіць нельга?" — нясмела спытаў Косця. "Нет, мы не имеем таких приборов,"—як удар маланкі прагучаў адказ мытніка. Атрымаўшы накіраванне з мытні, Косця, як пабіты ні за што сабака, пасунуўся дадому. Замест суцяшэння, дома яго яшчэ вылаяла і жонка: "А чаго ты, як усе людзі, не купляў нямецкую машыну, а купіў нейкае французскае … (далей жонка выказалася так, што гэта нельга надрукаваць)."

Але сварыся не сварыся, а назаўтра Косця падаўся ў сталіцу вымяраць аб'ём рухавіка. Паблукаўшы ў акадэміі, як воўк у незнаёмым лесе, нарэшце знайшоў ён патрэбную кантору на дзесятым паверсе. Прыгожая дзяўчынка паказала яму дацэнта, які гэтым займаўся.




Глянуўшы на Косцю, дацэнт сціміў, што гэта вясковы лох, таму ён адразу надзьмуўся, як індык перад індычкай, і сказаў: "Давайце ваш техпаспорт". Паклаўшы тэхпашпарт у ксеракс, дацэнт зрабіў копію, выняў яе, пры гэтым ён паглядзеў на Косцю, усім сваім выглядам выказваючы сваю пагарду, гэта табе, маўляў, калгаснік, апаратура, а не нейкі там трактар. Пазваўшы свайго маладога асістэнта, ён сказаў: "Ну, поехали, будем смотреть". Косця ўвесь гэты час думаў: "А як жа яны будуць яго вымяраць? Ці давядзецца разбіраць рухавік? Але ж гэта акадэмія, напэўна, у іх ёсць адмысловыя прылады." Спусціўшыся на пляцоўку, дацэнт і яго малады калега, спыталі Косцю: "Взвешивать будем?" "Каго?"—не зразумеў Косця. "Автомобиль". "Дык там жа напісана яго вага, ён жа за гэты час не схуднеў." "Ну ладно, значит, не будем, вы согласны?" "Так"—адказаў гаспадар «аўто». Дацэнт і яго памочнік закурылі, з нерваў закурыў і Косця. "Ну, открывай капот"—кажа дацэнт. Косця падняў капот. Пусціўшы доўгі шлейф дыму і прыняўшы філасофскі выгляд, дацэнт сказаў: "Да-а, мотор большой, как в тракторе, 2,1 будет точно." Дастаўшы тоўстую кніжку (даведнік па іншамарках) і прыклаўшы лінейку ў патрэбным месце, ён вынес канчатковы вердыкт: "Да, так и есть, в этом году только такие и выпускались. Ну, вот абъём определён, идите платите в кассу 814 тысяч и езжайте." У Косці аж цыгарэта выпала з зубоў: за тое, каб прыкласці лінейку ў даведніку трэба плаціць 35 "зялёных"?! Меўшы сам вышэйшую адукацыю, ён ніяк не мог зразумець, навошта мець навуковую ступень, каб прыкладаць лінейку ў даведніках. Але сварыцца з дзяржавай, што спраўляць патрэбу супраць ветру, давялося заплаціць.

Атрымаўшы патрэбныя паперы, праз два дні зноў паехаў Косця на мытню. Выехаў ціпер ён рана, таму, пачакаўшы пад дзвярыма "ўсяго" хвілін сорак, зайшоў ён у кабінет. Мытнік звярнуў на яго ўвагі не болей, як бык на камара. Ён расказваў калегу пра тое, як ён правёў выхадныя дні. Праз хвілін пяць, глянуўшы ў бок Косці, ён сказаў: "Нет старшего, он унёс ключи от сейфа, придётся ждать ". Нарэшце прыйшоў начальнік, выпісаў паперы і запытаў: "А сколько вы заявляли в деклорации?" "2,1",— адказаў Косця. "Так, зачем же я вас посылал в Минск. Ладно, идите платите, дакументы сейчас будут готовы". Заплаціўшы грошы, прыйшоў Косця за мытным пасведчаннем, і тут яго чакаў новы ўдар: на стале ў мытніка ляжала такая самая кніжка, як у дацэнта. Ніяк да яго не даходзіла, чаму трэба было ехаць у Мінск, калі справу можна было вырашыць на месцы. Але сябра яго "прасвяціў": мытня добра жыве, трэба падтрымаць і навуку.

На гэтым усе беды ў Косці не скончыліся. Трэба яшчэ было паставіць аўтамабіль на ўлік у ДАІ. Там не паставілі на ўлік «аўто» без нумара рухавіка, давялося шукаць тую няшчасную таблічку. Глядзелі ўтраіх і ніяк не маглі яе знайсці. Косця праклінаў ужо ўсё на свеце, калі падыйшоў Юрка, яго знаёмы. З хвіліну паглядзеўшы на рухавік, ён усклікнуў: "Ды вунь яна, каля шківа." Косця гатоў быў яго расцалаваць, потым уздыхнуў цяжка і сказаў: "І чаму я яе табе раней не паказаў? Больш за паўсотні баксаў бы сэканоміў. Лепш мы б іх прапілі, чым ні за што прыйшлося аддаць іх дзяржаве."

*Славамір Каляда*

# Рэгіён



**На здымку:** г.п. Ушачы. Такі дрывасек сімвалізуе Ушачкі лясгаз. *Фота Ул. Скрабатуна*

## Дабрыня з гадамі не памеркне

**Як і раней, многія дзесяткі абяздоленых сем'яў Мёрскага раёна з вялікай удзячнасцю адклікаюцца аб сям'і праваслаўнага свяшчэнніка Мікалая Рундо.**

Толькі за мінулы год ён унёс у фонд дапамогі 497 тысяч рублёў асабістых зберажэнняў. Дабрачыннай дзейнасцю парафія Рундо актыўна займаецца ўжо чатыры гады запар. Зусім нядаўна пратаірэй, благачынны Мёрскай акругі адзначыў сваё 80-годдзе, з чым яго віншавалі ў пабудаваным храме калегі-святары, веруючыя, прадстаўнікі каталіцкага касцёла. Дзякуючы намаганням гэтага чалавека, з'явіўся не толькі храм у горадзе, але і ў весцы Пестуны, пачынаецца будаўніцтва царквы ў Дрыгучах. У сваіх гуманных пачынаннях Рундо, паміж іншым, не адзінокі. Прыхажане касцёла за год сабралі 582 харчовыя пасылкі і 950 тысяч рублёў, якія райсабес размеркаваў сярод тых, каму патрэбна дапамога.

*У.Шык*

## Астапу Бендэру нават і не снілася

**Па ўласнай даверлівасці адразу сямёра гаспадароў з вёсак Амбросенкі і Валожынкі, што ў Шаркоўшчынскім раёне, аказаліся падманутымі.**

Па іроніі лёсу яны самі папрасілі былую лабарантку калгаса "Першае Мая" Таццяну Д., маці чатырох дзяцей, купіць у іх выгадаваную жывёлу. Яны ведалі, што жанчына займаецца "мясным" бізнесам. У мінулым студэнтка, якая не давучылася ў педінстытуце, відавочна, валодала талентам уваходзіць у давер да людзей. Аднак грошы за 750 кілаграмаў чыстага мяса, якое махлярка прадала ў Расіі, яна не вярнула і ў дадатак паўгода хавалася. Пасля таго, як камбінатаршу знайшлі, у судзе яна апраўдвалася, што яе быццам бы "кінулі" недобрасумленныя партнёры. Толькі адзін яе муж быў сумленным: грошы былі атрыманы і затрачаны на іншыя патрэбы сям'і і запчасткі да іншамаркі. У выніку наступныя два гады махлярцы прыйдзецца правесці ў калоніі строгага рэжыму і вярнуць усім пацярпелым грошы. Дарэчы, у судзе Шаркоўшчынскага раёна штогод праходзяць падобныя аферысты і чамусьці сярод іх фігуруюць адны жанчыны.

## Медаль змагару з агнём

Незвычайна завершылася адно з апошніх пасяджэнняў Пастаўскага райвыканкама. На ім сярод іншых пытанняў, разглядалася праблема супрацьпажарнай бяспекі ў рэгіёне. У мерапрыемстве ўдзельнічаў начальнік абласнога ўпраўлення МНС Леанід Паліпскі. Ад імя прэзідэнта краіны ён уручыў медаль "За бездакорную службу" II ступені падпалкоўніку Уладзіміру Дарашкевічу. Гэты афіцэр у службе выратавання больш дваццаці год, пачынаў простым інспектарам Дзяржпажнагляду. Пры ім мясцовая выратавальная служба па паказчыках службовай дзейнасці стала адной з лепшых на Віцебшчыне. Неаднаразова камандзір часці выязджаў і асабіста ўдзельнічаў у тушэнні найбольш складаных пажараў, ліквідацыі надзвычайных сітуацый, выратаванні людзей. Пад яго кіраўніцтвам мясцовыя пажарнікі ўласнымі сіламі пабудавалі пажарнае дэпо для падраздзялення часці ў горпасёлку Варапаева.

*У. Шык*

## Пад дзіравым дахам

**З трывогай чакаюць вяртання цяпла ў буйнейшай у Шумілінскім раёне сярэдняй школе № 1.**

Як толькі пройдзе вялікі дождж, памяшканне залівае вадой, бо дах працякае. На яго рамонт летась у абласным бюджэце было выдзелена 30 млн. рублёў, але ніводнага рубля ў школе так і не дачакаліся. Дагэтуль 1198 вучняў, якія займаюцца тут, не маюць сучаснага камп"ютарнага класа. Наогул, рэформа агульнаадукацыйнай школы можа спыніцца з прычыны фінансавых цяжкасцей, якіх раней тут не бачылі. Упершыню з пачатку года з-за адсутнасці грошай у даходнай частцы бюджэта сістэма адукацыі вобласці сутыкнулася з затрымкамі выплаты заробкаў амаль на месяц і болей.

*У.Шык*

## Трагедыя ў камеры

Розныя наступствы бываюць у сямейных канфліктах. Але ніхто не мог падумаць у Паставах, што столькі непрыемнасцяў прынясе чарговая спрэчка ў адной з маладых сем'яў. У міліцыю забралі па прашэнню жонкі яе мужа, які любіў выпіць. Яго пасадзілі ў камеру, бо ён буяніў. У ёй 30-гадовы мужчына, які меў дачку, скончыў жыццё самагубствам: павесіўся на шнурку, які быў у яго куртцы. Па факту гэтай надзвычайнай смерці жыхара райцэнтра пацярпелі і людзі ў пагонах. Двое міліцыянераў, якія дзяжурылі ў той дзень у ізалятары часовага ўтрымання, звольнены са службы ў органах унутраных спраў. Яшчэ чацвёра афіцэраў міліцыі атрымалі папярэджанні аб няпоўнай службовай адпаведнасці, што не дасць ім рухацца далей па службе ў міліцыі.

## Прэмія – рагаты басціён

Адразу семёра даярак калгаса "Іскра" Докшыцкага раёна па выніках работы за год узнагароджаны каштоўнымі падарункамі, якія яны... вырасцілі самі. На прайшоўшым справаздачна-выбарным сходзе за высокія надоі і амаль 100-працэнтную захаванасць статка ўсім уручылі па цяляці. А самай лепшай, Валянціне Судніковіч, якая надаіла ад сваёй групы кароў 95 тон малака, дасталася грашовая прэмія ў 300 тысяч рублёў. Акрамя жывёлагадоўлі яшчэ больш паспяхова развіваецца ў гаспадарцы земляробства. Тут вырасцілі самы высокі ўраджай у краі – у сярэднім па 35 цэнтнераў збожжавых з гектара. Акрамя дзяржпаставак прадалі 310 тон зерня насельніцтву. Такія вынікі 39-гадовага галоўнага агранома Уладзіміра Петрушэнка былі заўважаны ў раёне, і ён пайшоў на павышэнне, заняўшы пасаду першага намесніка райсельгасхарчу. Між тым, не гледзячы на дасягненні, той жа "Іскры" ніяк не ўдаецца пазбавіцца ад даўгоў каля 400 млн. рублёў.

## Самы хадавы тавар

Першымі ў райцэнтры Шаркоўшчына пачалі рыхтавацца да святкавання ў будучым годзе юбілея – 500-годдзя з дня заснавання – работнікі гандлю. Адразу пасля рамонту універсама "Цэнтральны" тут адкрылася новае кафэ "Беларускае бістро". Аднак яго ўладар, райпа, хоць і павялічыў за год рознічны тавараварот на 20,3 працэнта, давёўшы яго да 5323,8 мільёна рублёў, само аказалася ў складанай сітуацыі. Са 142 гандлёвых кропак толькі 22 магазіны прыносяць прыбытак. Затое ў сельскай мясцовасці адны страты. Нельга стварыць адмысловых вітрын, калі ў кашальках у людзей пуста. Таму ў агульным аб'ёме тавараабароту больш за ўсё – 67,9% - прадаецца харчовых тавараў.

У асарціменце самы папулярны тавар, як і раней, алкагольныя напоі. Яны складаюць 1351,5 млн. рублёў, амаль трэць аб'ёма рэалізацыі. Пры цяперашняй беднасці кожны жыхар раёна, уключаючы старых і дзяцей, патраціў на спіртное ў сярэднім па 56 550 рублёў.

*У. Шык*



*Фота IREX /ProMedia*

## Роўных больш не будзе

У добрым настроі вярнуўся нядаўна са справаздачнага сходу ў саўгасе імя Ціміразева Глыбоцкага раёна адзін са старэйшых работнікаў калектыву Канстанцін Самохін. За 40 год работы на тэхніцы ветэран ні разу ў полі не дапусціў брака і збояў у рабоце. Але яго заробкі мала чым адрозніваліся ад другіх, менш старанных трактарыстаў. Па ініцыятыве дырэктара саўгаса, кандыдата сельскагаспадарчых навук Аляксандра Сесіцкага цяпер ураўнілаўкі ў гаспадарцы не будзе. Не толькі Самохіну, але і яшчэ 11 лепшым механізатарам, вадзіцелям, жывёлагадоўцам прысвоена ганаровае званне "Чалавек года саўгаса". На працягу наступных 12 месяцаў кожнаму ўладальніку гэтага тытула зарплата будзе налічвацца з каэфіцыентам 1,5 па ўсіх відах асноўных і дадатковых аплат. Адначасова ў гаспадарцы ўвялі і другое ганаровае званне: "Майстар вытворчасці саўгаса". Яго прысудзілі яшчэ 10 лепшым работнікам з каэфіцыентам аплаты працы 1,25.

*У. Шык*

## У поцемках

**Усім, хто прыязджае з суседняй Літвы ў прыгранічны пасёлак Лынтупы, што ў Пастаўскім раёне, адразу кідаецца ў вочы начная цемра.**

Калі ў цэнтры старажытнага мястэчка яшчэ гарыць некалькі ліхтароў, то на астатніх вуліцах поўная цемра. Работнікі пасялковага савета ўвогуле са дня на дзень чакаюць санкцый ад энергетыкаў, паколькі доўг за карыстанне электраэнергіяй перавышае 1,5 млн.рублёў. Ліміт карыстання з-за гэтага зведзены да мінімуму. Даўгі бюджэтных арганізацый ужо перавысілі 5 мільёнаў рублёў, а асноўнае прадпрыемства – спіртзавод і мясцовы калгас "Перамога" самі ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі. З надыходам вясны і цёплых дзён наўрад ці наступіць "прасвятленне". Больш таго, як адзначыла старшыня сельсавета Валянціна Кузьміч, зусім хутка прыйдзецца поўнасцю адмовіцца ад электраасвятлення вуліц гарпасёлка, бо грошай у казне зусім няма.

*У.Шык*

## "Гігант", ды слабы

Поўнасцю адключаным ад падачы электраэнергіі апынуўся днямі вялікі двухпавярховы будынак у вёсцы Павяцце Мёрскага раёна, у якім акрамя праўлення калгаса "Гігант" размясціліся сельсавет і пошта. Энергетыкам надакучыла чакаць іх абяцанні пагасіць доўг за спажытыя дарма больш 15 тысяч кілават-гадзін электраэнергіі. Калі хоць такім чынам можна паўплываць на калгас, то невядома, як прымусіць яшчэ 36 суб'ектаў гаспадарання плаціць падаткі ў бюджэт. Між тым, і тут калгас "Гігант" займае сумнае першынство, запазычыўшы больш 21,5 мільёна рублёў. Агульная запазычанасць незаплачаных падаткаў на Мёршчыне перавысіла 649 мільёнаў рублёў, што прывяло да затрымак заробкаў работнікам бюджэтнай сферы.

## Парадоксы з жыцця

Апошнім часам самыя доўгія чэргі па базарных днях у Докшыцах за прывазным хлебам з іншых гарадоў. Прадукцыя ж уласнага хлебазавода перастала карыстацца попытам, хоць на ім ёсць сучаснае магутнае абсталяванне. Але завод большы час стаіць, праце толькі ноччу, хоць выпяканне асобных гатункаў хлеба разлічана на няспынны працэс. Спажыванне хлеба ў раёне рэзка знізілася, і давялося паменшыць за год аб'ём вытворчасці на 20,6%. У магутнай печы малыя партыі хлеба проста высыхаюць, псуецца закваска. Гэта зніжае якасць і смак галоўнага прадукта на стале за абедам. Выхад з сітуацыі, на думку галоўнага інжынера хлебазавода Марыі Качатковай, у замене абсталявання на менш магутнае. Але гэта справа не аднаго года і на перааснастку спатрэбяцца немалыя сродкі.

## На офіс «Альфа Радыё» напалі

4 красавіка раніцай на офіс «Альфа Радыё» быў учынены напад. Як паведамілі БЕЛТА у ГУУС Мінгарвыканкама, інцыдэнт адбыўся каля 4 гадзін раніцы. Да офіса радыёстанцыі, размешчанага на праспекце Скарыны ў Мінску, пад'ехаў аўтамабіль. Жанчына, якая знаходзілася ў ім, спачатку разбіла каменнем дзверы і вокны будынка, а затым сваім аўтамабілем пратараніла некалькі машын, што знаходзіліся побач на стаянцы. Супрацоўнікі міліцыі ў хуткім часе затрымалі хуліганку. Высветлілася, што яна прыехала ў сталіцу з Жодзіна. Матывы яе ўчынку пакуль што невядомыя. Па гэтаму факту праводзіцца расследаванне.

*Ігар Хадасевіч*

## Полацкі мытнік атрымаў тры гады

Расонскі раённы суд разгледзеў крымінальную справу, узбуджаную ўпраўленнем Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь па Віцебскай вобласці ў адносінах да інспектара аддзела барацьбы з кантрабандай і адміністрацыйнымі правапарушэннямі Полацкай мытні. Гэты "вартавы парадку" за пропуск аўтамабіля, які перавозіў без належных дакументаў каляровыя металы, атрымаў ад вадзіцеля хабар у памеры 150 долараў ЗША. Рашэннем суда інспектар прыгавораны да трох гадоў абмежавання волі з пазбаўленнем на 5 гадоў права займаць пасады, звязаныя з арганізацыйна-распарадчай дзейнасцю. У яго вырашана таксама канфіскаваць аўтамабіль "Фольксваген-Пасат".

*Вольга Сідаровіч*

## Рэктар ПДУ пагражае "Канспэкту"

**Некалькі нумароў назад мы пісалі пра юбілей гэтага студэнцкага выдання. Тым не менш, абставіны прымушаюць зноў звярнуцца да тэмы жыцця газеты. Рэктар Полацкага дзяржаўнага універсітэта пагражае "Канспэкту" «прыняць меры».**

На днях адбылася сустрэча рэктара ПДУ Эрнста Бабенкі з рэдактарам "Канспэкта" Сержуком Балаем. "Шэф" навучальнай установы выказаў сваё абурэнне апошнімі нумарамі газеты, а ў прыватнасці некаторымі артыкуламі, якія раскрывалі актуальныя праблемы ВНУ не так, як гэта патрэбна кіраўніцтву. Напрыклад, журналісты газеты, якія хаваюцца пад псеўданімамі, зразумела з-за якіх прычын, напісалі пра тое, як выкладчык ВНУ Жан Бензакулівахе прымае ў студэнтак іспыт. Паводле "Канспэкта" выкладчык жыве ў інтэрнаце і карыстаецца надобрай рэпутацыяй сярод студэнтаў. Тое, што ён прымае экзамены за "інтым", кажуць многія ў універсітэце. І толькі незалежная газета асмелілася прыцягнуць да гэтай праблемы ўвагу грамадскасці. Некалькі нумароў назад газета друкавала адкрыты ліст жыхароў інтэрната Бастыліі. Як не дзіўна, улады ПДУ "наехалі" на "Канспэкт" нават за адкрыты ліст.

Паралельна з пагрозамі "Канспэкту" ўлады вядуць падрыхтоўку выдання сваёй уласнай газеты "Настеж", якая выдавалася калісьці, але прыпыніла свой выхад. Па неафіцыйных звестках універсітэт атрымаў пад стварэнне выдання універсітэцкага самакіравання немалое фінансаванне (кажуць, нават з-за мяжы). Зразумела, кіраўніцтва кіне грошы на сваё выданне, а незалежнае паспрабуе задушыць. Рэдактар газеты Сяргей Балай кажа: "Мы не баімся пагрозы, хаця, калі рэктар падасць у суд, дзяржава будзе на яго баку". Пераслед незалежнага выдання перад сезонам уступных іспытаў дрэнна характарызуе навучальную ўстанову ў вачах абітурыетаў. Хочацца спадзявацца, што ўсё ж Эрнст Міхайлавіч Бабенка і яго намеснікі не зробяць памылкі і не будуць парушаць імідж ПДУ, як свабоднага, еўрапейскага ВНУ, дзе не парушаюцца, а наадварот адстойваюцца правы студэнцтва. Цяперашняя ўлада можа пратрымацца надоўга, а вось потым рэктарату будзе сорамна глядзець студэнтам у вочы.

*А.Храпавіцкі*

## Смутак старажытных руінаў

Беларусь справядліва называюць краінай азёр, рэк і лясоў. Гэта справядліва, гэта неацэнная наша спадчына. Але ж ёсць у нашага народа і яшчэ адна неацэнная спадчына – сотні і сотні культавых будынкаў, якія засталіся на нашай зямлі з мінулых стагоддзяў. Яны адносяцца да розных, часам супярэчлівых, перыядаў нашай гісторыі, да розных канфесій, розных архітэктурных школ. Ды толькі ўзнятыя, пабудаваныя яны рукамі нашых продкаў, простых працаўнікоў, выдатных дойлідаў. У савецкія часы да гэтых помнікаў было стаўленне аднaзначнае. І менавіта савецкія часы нанеслі ім непапраўны ўрон. Сёння многае аднаўляецца. Але многае яшчэ ляжыць у руінах, якія выклікаюць глыбокі смутак.



Мураваны кляштарны комплекс бернардзінцаў у вёсцы Селішча Ушацкага раёна заснаваны ў 1654 годзе харунжым ВКЛ Адамам Слушкам. У 1728 годзе на ахвяраванні падчашага полацкага Яна Рагозы бернардзінцы пачалі ўзводзіць "аграмадныя" паводле інвентара мураваныя кляштар і касцёл св. Веранікі, будаўніцтва якіх працягвалася да пачатку XIX стагоддзя. Пасля паўстання супраць царызму ў 1830-1831 гадах кляштар зачынілі, а касцёл прыстасавалі пад праваслаўную царкву.

Парадоксы нашай гісторыі. Яшчэ ў семідзесятыя гады касцёл меў больш-менш прыстойны выгляд. Але час робіць сваю справу. На здымку бачна, як ён выглядае цяпер.

*Фота У. Скрабатуна*



*Фота В.Саланінкі*

Магазін «Смак» -- яшчэ адзін крок да развіцця сеткі прыватнага гандлю ў Глыбокім. Ён адкрыўся на мінулым тыдні і чакае сваіх наведвальнікаў. Магазін знаходзіцца на скрыжаванні вуліц 3 ліпеня і Чырвонаармейскай. Як зазначыў яго гаспадар П. Пачопка, магазін павінен задаволіць патрэбы жыхароў гэтага раёна. Асартымент неабходных харчовых тавараў, садавіны, касметычных і гігіенічных рэчаў павінен прывабіць увагу да новай гандлёвай кропкі. Тым больш што ў плане -- продаж прывазнога хлеба з Мінска, а цэны досыць памяркоўныя. Дарэчы, прадаўцы Анжэла і Наташа хутка і ветліва вас абслужаць.

## А лес між тым аднолькавы

**Калі едзеш з Пастаў на Глыбокае ці наадварот – мяжу паміж двума раёнамі цяжка нават і вызначыць, каб не ўказальнікі. Лясы ўздоўж дарогі абсалютна аднолькавыя. Прычым тут лясы? – спытае нехта. Лясы, канечне, ні пры чым. А вось людзі, якія ў іх працуюць розняцца ўражальна. Дакладней, не людзі, а тыя ўмовы , што створаны для іх.**

Праца работніка лясной гаспадаркі падобная ўсюды. Расціць, даглядаць лес, потым, калі прыйшла яго пара – пілаваць, тралявaць, перапрацоўваць бёрны на пілараме, адпраўляць спажыўцам. Ды толькі ацэньваць гэту працу можна па-рознаму.

Сёння ў двух суседніх раёнах, у двух суседніх лясгасах аплата працы розніцца, нібыта гэтыя прадпрыемствы ляжаць адно ад другога на добрую тысячу кіламетраў. Рабочы ў Пастаўскім лясгасе павінен задавольвацца недзе сотняй тысяч рублёў. У Глыбоцкім яна сягае і за 200 тысяч.Паўторым, праца ў рабочых аднолькавая. Тое, што Глыбоцкі лясгас мае статус, вопытнага істотна справы не мяняе. Відаць, справа ў асноўным у тым, як адносіцца да справы аплаты працы кіраўніцтва аднаго і другога лясгасаў. І яшчэ ў тым, не будзем гэтага хаваць, як умеюць рабочыя гэтых прадпрыемстваў адстойваць свае інтарэсы.

Працавалі некалі ў суседніх лясгасах два дырэктары. Здавалася б, аднолькавы лёс іх чакае. Дырэктурствуйце, на здароўе. Але павярнулася інакш. Пастаўскі дырэктар А.Казлоў досыць нечакана пайшоў на крутое павышэнне. Стаў кіраўніком лясной галіны ў Віцебскай вобласці. Глыбоцкі дырэктар М.Крук застаўся на сваім месцы. І, як расказваюць відавочцы, яму на абласных нарадах даводзілася выслухоўваць не зусім лагодныя характарыстыкі ад свайго былога суседа і калегі.

Ды гэта далёка не ўсё. Лёс зноў даў выкрутас. Праз нейкі час глыбоцкі дырэктар апынуўся ў Мінску і нават у крэсле кіраўніка ўсёй лясной галіны краіны. Ага, скажа чытач, цяпер віцебскаму начальніку давялося быць у ролі падначаленага. Ды не, інтрыга ў большым. Сёння былы дырэктар Пастаўскага лясгаса і былы ўжо абласны кіраўнік знаходзіцца пад следствам, нават затрыманы. У свой час мне першаму з журналістаў давялося пісаць пра тайны бокс, які выявілі супрацоўнікі міліцыі ў Пастаўскім лясгасе. У гэтым боксе А.Казлоў захоўваў накопленыя "нястомнай працай" багацці. Спіс іх уражвае не толькі колькасцю аўтамабіляў, матаблокаў, мэблі і г.д. Уражвае ён найперш тым, што выклікае недаўменне: навошта аднаму чалавеку столькі? Тут і ўсёй радні было б звыш галавы. А эпапея з будаўніцтвам дома для былога дырэктара Пастаўскага лясгаса... У Паставах той церам ужо стаў прымаўкай. Дзесяць гадоў цягнулася будаўніцтва і да гэтага часу не завершана. Бо гаспадар дома быў вельмі ўжо пераборлівы і загадкавы ў сваіх жаданнях. Адное і тое ж перараблялі па некалькі разоў. І ўсё з матэрыялаў вышэйшай якасці. І, зразумела, за кошт лясгаса. За гэты час для рабочых лясгаса не было пабудавана ніякага жылля . І гэта на прадпрыемстве, якое працуе з лесам – асноўным матэрыялам нашай любой будоўлі.

Толькі рабочыя маўчалі. Ці не тут прычына ў доўгім ранейшым цараванні былога дырэктара. І нават у тым, што сённяшняя заработная плата пастаўскага ляснога работніка непараўнальная з іншымі? Праўда, трэба браць пад разлік і тое, што Паставы – своеасаблівы цэнтр беспрацоўя на Беларусі. А там, дзе няма працы, згаджаюцца на любую яе аплату.

І вось яшчэ пра што нельга не сказаць. Пачынаў з нашага агульнага лесу, пра яго і закончу. Ля буйных дарог у нас, нібыта, усё і ў парадку. Стаіць сцяной. Але грыбнікі, аматары збіраць ягады, паляўнічыя, тыя, хто проста любіць адпачыць у лесе, ведаюць: наш лес зусім не той, якім быў яшчэ некалькі гадоў назад. Яго бязлітасна высякаюць. Часам чалавек проста не пазнае знаёмых з дзяцінства мясцін. Лес секлі заўсёды, натое ён і лес. Але тое, што робіцца ў апошнія гады, гэта ўжо навала. Ідзе і ідзе беларускі лес на экспарт, трапляе нават у больш лясістую Фінляндыю. Беларускай бярозай ацяпляюцца еўрапейскія каміны. Нейкія долары мы, канечне, атрымліваем. Але што пакінем сваім нашчадкам. Даводзіцца і пра гэта пісаць. Але ў афіцыйнай прэсе сарамлівае маўчанне.

*Алесь Касцень*

# Цудоўны школьны час!







**Вучні 11 «А» класа СШ №1 святкуюць пачатак сваіх апошніх школьных канікул.**

Конкурс

# Гісторыя з паштовай скрыні

Грамадскае аб'яднанне "Дыярыуш" пры ўдзеле ТБМ і ТБШ абвяшчае конкурс "Гісторыя з паштовай скрыні". У ім могуць браць удзел вучні сярэдніх навучальных устаноў (з 7-га класа) – школ, ліцэяў, гімназій – а таксама навучэнцы каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў (да 19 год).

Хто з нас не пісаў і не атрымліваў лістоў, не карыстаўся поштаю?

А чаму б не паспрабаваць зірнуць на гісторыю мінулага XX стагоддзя з дапамогаю пошты, як бы "праз паштовую скрыню"? Змесціва яе шмат можа нам распавесці пра тое, як і дзеля чаго функцыянавала пошта ў Беларусі, якую ролю адыгрывала яна ў грамадстве мінулага стагоддзя, пра тое, што адпраўлялі і атрымлівалі па пошце нашы суайчыннікі, з якімі рэгіёнамі і чаму ліставаліся, пра што паведамлялі адзін аднаму…

Калі вас цікавіць гісторыя Беларусі, вабіць пошук новых ведаў, творчасць – далучайцеся да ўдзелу ў нашым конкурсе – станце сябрамі "Блізкай гасторы".

Канечне ж ,працуйце самі, не перапісвайце з кніг і іншых выданняў. Зрабіць яе можна і на камп'ютары, і на пішучай машынцы, і ад рукі, але разборліва. Дасылайце працу ў адным экземпляры.

Форма конкурснай працы адвольная: сачыненне, эсэ, інтэрв'ю, фільм і іншыя. Калі праца нятэкставая ( аўдыё-, відэа-, фотаздымкі), да яе трэба далучыць тэксты каментарый. Праца павінна быць напісанай па-беларуску, яе можна выконваць індывідуальна альбо групай, самастойна альбо з куратарам. Да працы абавязкова трэба далучыць анкету ўдзельніка з прозвішчам, імем удзельніка, яго каардынатамі і назвай працы, а таксама з прозвішчам, імем і каардынатамі кіраўніка ( пры яго наяўнасці).

Працы прымаюцца да 3 верасня 2002 года ( дата вызначаецца па паштовым штэмпелі). Дасылайце на адрас **"Блізкая гістрыя", а/с 128, 220064, Мінск.**

Вынікі конкурсу будуць абвешчаны 30 лістапада 2002 года. Пераможцаў чакаюць прызы! Дадатковую інфармацыю, парады і брашуру, у якой падрабязна выкладзеныя ўмовы, можна атрымаць ад сакратара конкурсу Ірыны Каваль **(т. (8-017) 227-51-09), e-mail: office @dyjaryush. org.by)**

# "Настальгія" па мілітарызму

Стаю на ўзлётна-пасадачнай паласе. Ціха, пуста. Толькі веснавы вецер шамаціць пажухлай травой, якая прабіваецца скрозь пліты паласы. Ды ў пустых капанірах ганяе нейкае асмецце. А даводзілася мне тут бываць у іншыя, зусім іншыя часы. Тады на аэрадроме даводзілася крычаць, каб цябе пачуў субяседнік. Раўлі рухавікі дзесяткаў знішчальнікаў і франтавых бамбардзіроўшчыкаў. Разпораз у паветра ўздымаліся магутныя баявыя машыны. Ды ўрэшце роў іх рухавікоў добра чулі не толькі жыхары Пастаў і навакольля, але і ўсяго нашага заходняга рэгіёна Віцебшчыны. Два палкі баявой авіяцыі базіравалася на пастаўскім ваенным аэрадроме. Паліва хапала, лётчыкі імкнуліся налятаць як мага больш гадзін для павышэння сваёй кваліфікацыі, для заробку. Так што і ўначы мясцовыя жыхары чулі з неба роў рухавікоў. А сёння над Паставамі ціха. Калі-нікалі праляціць верталёт пагранічнай авіяэскадрыллі, якая і базіруецца не на былым гуллівым аэрадроме , а на маленькім былым грамадзянскім. Нягледзячы на дапамогу расійскіх пагранічнікаў, мала верталётаў, мала паліва. Пачысцелі навакольныя азёры, бо ўжо не трапляюць у іх скіды авіяцыйнага паліва і іншага шкоднага бруду. Цяпер у ваенным гарадку размешчана толькі дзве невялікія вайсковыя часці. Некалькі будынкаў займаюць цывільныя прадпрыймальнікі, якія атрымалі тут ад мясцовай улады памяшканні. Астатняе пустуе.

Але яшчэ больш гаротны выгляд, у параўнанні з мінулым, мае другі ваенны гарадок у Паставах, той, дзе некалі размяшчалася ракетная дывізія войскаў стратэгічнага прызначэння. Там будынкі напамінаюць сапраўдныя руіны пасля працяглых і жорсткіх баёў.

І, трэба сказаць, што многія пастаўчане зведваюць своеасаблівую настальгію па былому мілітарызму свайго невялікага гарадка. Сотні з іх страцілі звычныя месцы працы ў вайсковых часцях. Памянела ў некалькі разоў, што – у некалькі дзесяткаў разоў афіцэраў, патэнцыяльна багатых пакупнікоў і кватэраздымшчыкаў.

Вось чаму з заўзятай перыядычнасцю з'яўляюцца чуткі аб тым, што, магчыма, у недалёкай будучыні зноў "сядуць" у гарадку нейкія часці. Звязваецца гэта з блізкасцю мяжы, тым, што суседняя Літва ўпарта ідзе ў НАТА.

Але ранейшага, зразумела, не будзе. Мілітарная гісторыя гарадка скончылася. Праўда, знакі яе на гэтай зямлі застануцца яшчэ надоўга. Ніхто пакуль што не збіраецца разбіраць згаданую ў пачатку ўзлётна-пасадачную паласу. На ўсякі выпадак. А ў лясах пад Паставамі затопленыя ракетныя шахты. Дарэчы, знаходзіліся яшчэ нядаўна шукальнікі каляровых металаў, якія не толькі як краты перакопвалі гэтыя лясы ў пошуках пакінутых вайскоўцамі кабеляў, але і спрабавалі пранікнуць у гэтыя шахты, выкапаныя некалі данецкімі шахцёрамі. Такія спробы не заўжды заканчваліся набыткам у выглядзе каштоўных металаў. Два чалавекі ў шахце загінулі. Цудам ацалелі выратавальнікі, якія даставалі іх.

А ля вёскі Касцяні вось ужо дзесяць гадоў вядзецца будаўніцтва аздараўленчага комплексу для дзяцей чарнобыльцаў. Раней тут захоўваліся баегаловы ракет. Афіцыйна зацверджана, што на месцы будаўніцтва і прылеглых тэрыторыях усё "чыста". Ды сумненні ў многіх застаюцца, больш гэта псіхалагічнага плану.

Мы шмат аб чым смуткуем, аглядаючыся ў мінулае, нешта шкадуем. Але мінулым не пражывеш. Трэба глядзець у будучыню і нешта рабіць для яе.

*Алесь Касцень*

# Будзе што паглядзець




На Беларусі зарэгістравана і дзейнічае маладзёжнае грамадскае аб'яднанне "Гісторыка", у якое ўваходзяць сотні маладых людзей, якія найгалоўнейшай сваёй задачай лічаць прапаганду гістарычнай навукі сярод насельніцтва, найперш моладзі. Сябры аб'яднання займаюцца не толькі традыцыйнай працай навукоўцаў, выданнем бюлетэняў і часопіса з аднайменнай назвай, але і наладжваюць разнастайныя вечары, арганізоўваюць святкаванне юбілеяў нашай слаўнай гісторыі. Яны часта выязджаюць у вандроўкі па краіне.

Вось і 19 траўня "Гісторыка" хоча наведаць Глыбоччыну. У плане падарожжа – Глыбокае,Мосар,Задарожжа і Празарокі.

Што ж найперш будзе цікавіць маладых гісторыкаў? У Задарожжы, у касцёле хрышчаны Вацлаў Ластоўскі, прэм'ер Беларускай Народнай Рэспублікі. У Празароках – радзіма Ігната Буйніцкага, бацькі беларускага тэатра.

Будзе што паглядзець маладым.

# РАУС інфармуе...

У мэтах абароны грамадзян ад злачынных дзеянняў Глыбоцкім РАУС на працягу трох месяцаў года праводзіліся аператыўна-прафілактычныя аперацыі "Быт", "Арсенал", "Невад" і іншыя. У іх час індывідуальна-прафілактычнай работай было ахоплена 67 асоб, што стаяць на ўліку па сістэме "Быт", у тым ліку 19 раней судзімых за бытавыя злачынствы, 17 сацыяльна-небяспечных псіхічна хворых.

Акрамя таго ў мэтах прафілактыкі і папярэджання цяжкіх злачынстваў у сферы сямейна-бытавых адносін РАУС прымаліся меры крымінальна-прававога і адміністрацыйнага характару. За 3 месяцы ў адносінах сямейных дэбашыраў за лёгкія цялесныя пашкоджанні і катаванні узбуджана адна крымінальная справа, за пагрозу забойства – 5. Да адміністрацыйнай адказнасці за нанясенне пабояў прыцягнута 16 чалавек, за дробнае хуліганства – 163, абмежавана ў дзеяздольнасці 9 чалавек, 6 хранічных алкаголікаў накіравана ў ЛПП.

Для забеспячэння бяспекі дарожнага руху праводзіліся аперацыі "Пераезд", "Хуткасць", "Дарога", "Алкаголь" і іншыя. Выяўлена 2126 парушэнняў правілаў дарожнага руху, у тым ліку 108 вадзіцеляў у стане алкагольнага ап'янення, 1227 чалавек парушылі хуткасны рэжым.

Асаблівую небяспеку ўяўляе праблема гібелі людзей у выніку атручванняў, у тым ліку спіртаўтрымліваючымі рэчывамі, а таксама гібель у выніку ўздзеяння алкаголя. За 3 месяцы на тэрыторыі раёна загінула 26 чалавек, з іх памерла- 10, у выніку пажараў – 5, з-за п'янства- 9, самазабойства здзейсніл- 2, забіты- 1 чалавек, патанула – 3.

Супрацоўнікамі РАУС за парушэнне антыалкагольнага заканадаўства затрымана 703 чалавекі, 292 з іх змешчаны ў медвыцвярэзнік. Выяўлена 50 фактаў самагонаварэння, канфіскавана 400 літраў брагі і 8 самагонных апаратаў.

Найбольшую колькасць сярод загінуўшых складаюць грамадзяне старэй 50 гадоў (50 %). Ад 40 да 50 – (23 %), ад 35 да 40 – 2, ад 30 да 35 – 2 і да 30 1 чалавек. Загінула 15 гарадскіх і 11 сельскіх жыхароў. З іх працуючых – 8, непрацуючых – 8, пенсіянераў –10 чалавек. 24 мужчыны і 2 жанчыны.

У мэтах папярэджання пажараў Глыбокскім РАУС сумесна з МНС праведзена праверка супрацьпажарнага стану жылых дамоў і кватэр, шматдзетных сем'яў, сем'яў, якія выклікаюць абаснаваную трывогу, і асоб, што злоўжываюць спіртнымі напоямі. Праверана 1456 кватэр, 3508 прыватных домаўладанняў, 257 праблемных сем'яў, 585 асоб, што злоўжываюць алкаголем.

Праблема папярэджання гібелі людзей патрабуе кансалідацыі намаганняў органаў улады і кіравання, іншых зацікаўленых ведамстваў (медыцыны, адукацыі, МНС, праваахоўчых і судовых органаў, таварыства выратавання на вадзе), грамадскасці, сродкаў масавай інфармацыі.

*В.Протас, начальнік аддзялення аховы правапарадку і прафілактыкі*

# Абясшкодзілі затоеную смерць

9 красавіка ў Глыбокім на вуліцы Леніна вяліся земляныя работы. Экскаватар у чарговы раз зачэрпнуў сваёй вялізнай "лапай" зямлю і высыпаў яе на ўжо вырасшую побач кучу, калі кіраваўшы работамі прараб заўважыў, што з глебы тырчаць падазроныя прадметы. Апасенні былі не дарэмныя – у рыхлай зямлі знаходзіліся міны, відавочна, што засталіся яшчэ з часоў вайны. Работы былі імгненна спыненыя. Прараб пазваніў на вузел сувязі Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях і паведаміў дыспетчару аб небяспечнай знаходцы. Праз некалькі хвілін сіламі падраздзялення РАНС і прадстаўнікоў РАУС месца здарэння ачапілі. Прыбыўшая неўзабаве група размініравання з вайсковай часці № 5530 г. Полацка выняла з катлавана апрача знойдзеных дзвюх яшчэ 12 смертаносных снарадаў. Іх абясшкодзілі за горадам у раёне возера Белае, папярэдне выставіўшы ачапленне.

*А.Шынкевіч*

### Навінкі з кніжнай паліцы

Т.В. Габрусь. **"Мураваныя харалы. Сакральная архітэктура беларускага барока".** Мінск. "Ураджай". 2001 г.




Аўтар даследуе вытокі і шляхі развіцця мураванага сакральнага дойлідства на Беларусі ад часоў прыняцця хрысціянства і да падзелаў Рэчы Паспалітай, а таксама вызначае этапы эвалюцыі мастацкага стылю беларускага барока. Кніга багата ілюстравана. Яна адрасавана ўсім, хто цікавіцца гісторыяй айчыннага мастацтва.

У кнізе змешчана не толькі багатая бібліяграфія, што спатрэбіцца спецыялісту, але і багаты слоўнік тэрмінаў, які дапаможа зразумець, глыбей разабрацца ў тэксце.

Шмат месца ў кнізе займаюць матэрыялы і фотаздымкі, якія прысвечаны ўсім мураваным храмам эпохі на Глыбоччыне, Пастаўшчыне, іншых раёнаў нашага рэгіёна.

На жаль, наклад кнігі невялікі -- усяго 2000. Спяшайцеся, аматары даўніны!

*У.С.*

# У спісах не значыўся

**Да гэтага толькі на пахаваннях даводзілася бачыць дарослых мужчын, якія плачуць. Сталы жыхар вёскі Камаі Пастаўскага раёна Казімір Кліпо горка заплакаў, калі пачаў расказваць аб мытарствах, якія выпалі на долю яго бацькі больш паўстагоддзя таму назад...**

Перад вайной яго вялікая сям'я, дзе падрасталі пяцёра братоў і шасцёра сясцёр, жыла спакойна і даволі заможна. Глава сямейства ростам пад два метры лічыўся ў акрузе ўмелым кавалём. І нядрэнна зарабляў. Але калі сюды прыйшла савецкая ўлада, у лістападзе 1939 года Кліпо старэйшага забралі на прымусовыя работы пад Беластокам. Там Валянцін Івановіч будаваў разам з другімі ўзлётна-пасадачную паласу на аэрадроме. Пазней іх усіх пераапранулі ў чырвонаармейскую форму. У гэтай жа форме адразу пасля нападзення гітлераўцаў на СССР салдат-рабацяг арыштавалі фашысты і павялі на растрэл.

Выратавала каваля тое, што ён крыху ведаў нямецкую мову. Ён звярнуўся да нямецкага афіцэра і папрасіў паглядзець на яго мазолістыя рукі, якія не маглі быць у савецкага шпіёна. Пазней у мітусні ўдалося здзейсніць пабег і вярнуцца дадому. Ужо пасля вызвалення бацьку зноў арыштавалі вясной 1949 года, больш месяца катавалі і адпусцілі толькі тады, калі з'явіўся піянерважаты мясцовай школы, які паехаў у сталіцу і нікога не папярэдзіў. Але даверу да Кліпо ва ўладаў усё роўна не было за яго сяброўства з ксяндзом і нежаданне ўступаць у калгас.

Праз год яго ўзялі ў трэці раз і зноў кінулі ў камеру ў Паставах. Потым перавялі ў турму ў Глыбокім, дзе і асудзілі. У віну, па словах сына, ставілася захаванне зброі ў сядзібе, якую за тыдзень усю перавярнулі, але нічога не знайшлі. Са зняволення бацька выйшаў у Мінску ў канцы чэрвеня 1951 года. Да гэтага часу ад яго маёмасці з зямельным надзелам у 8 гектараў, вялікага сада з 237 дрэў, кавальні, малацілкі, гумна мала што засталося. Тым не менш у калгас упартага каваля загналі сілай толькі праз 6 гадоў.

Такая несправядлівасць прыгнятала доўгія гады і, толькі калі стала магчыма, пачала клапаціцца яшчэ жывая маці разам з сынам аб вяртанні добрага імя Кліпо і пакрыцця шкоды. Як на грэх, пры звароце ў архівы УКДБ-УУС Віцебскай вобласці, КДБ-МУС Рэспублікі Беларусь ніякіх дадзеных аб арышце і асуджэнні Валянціна Іванавіча не было.

Калі адзін з братоў прывёз з Вільнюса захаваны пашпарт бацькі, з'явілася надзея на справядлівасць. Гэты пашпарт выдадзены ў сталіцы на падставе даведкі аб вызваленні з калоніі. Мяркуецца, справа гонару следчых органаў вобласці пацягнуць за гэтую ніточку, распутаць увесь гэты запутаны клубок. Хоць большая частка сведкаў тых выпрабаванняў ужо памерла, жывыя яшчэ некалькі чалавек, якія гатовыя сведчыць аб тым, як арыштоўвалі каваля і якую маёмасць забралі ў гэтай сям'і. Што тычыцца кампенсацыі за маёмасць, то шансы ў Кліпо-малодшага невялікія, а вось за вяртанне добрага імя каваля варта пазмагацца.

*Уладзімір Шык*

Гістарычныя кур'ёзы

# Як прадавалі Аляску

**Чамусьці многія лічаць, што Аляску прадала Злучаным Штатам Кацярына II.**

Ды не магла яна такое зрабіць, пры ёй Расія па драпежніцку далучала да сябе ўсё новыя і новыя тэрыторыі. Дарэчы, і наша Беларусь была ўключана ў склад імперыі менавіта пры ёй. А Аляску прадаў яе ўнук Аляксандр II 30 сакавіка 1867 года. Аляска і Алеуцкія астравы абыйшліся Злучаным Штатам у 7,2 мільёна долараў (прыблізна 1 цэнт за 20 сотак зямлі).

Аслабленая пасля Крымскай вайны, Расія баялася таго, што Аляску захопіць Англія. Акрамя таго яна была не ў стане абараніць свае амерыканскія тэрыторыі ад амерыканскіх кантрабандыстаў і зверапрамыслоўцаў.

Але па злой іроніі лёсу грошы за Аляску так і не трапілі да Расіі. 25 тысяч долараў атрымаў царскі пасланнік Стэкль за тое, што вёў перамовы; больш за 100 тысяч долараў было спісана Пецярбургскім дваром па тайнаму артыкулу расходаў "на дела, известные императору".

Большая ж частка з атрыманай сумы была выплачана ў золаце і пагружана на карабель "Аркней", які пасля па невядомых прычынах затануў.

*Зміцер Лупач*

# "Азерцы"

## гэта не толькі імя футбольнай каманды і вёскі, але і назва сядзібы Аскеркі, помніка архітэктуры позняга класіцызму.

У Азерцах, як ні дзіўна, цалкам захаваласясядзіба графа Аскеркі, пабудаваная ў другой палове XIX ст. Сядзібны дом, разам з комплексам будынкаў са свірнамі, стайнямі і іншымі гаспадарчымі пабудовамі з`яўляецца помнікам архітэктуры позняга класіцызму.

У свае першае наведванне ў 1975 годзе Азерцы пакінулі ў ва мне незабыўнае ўражанне. Здавалася, што патрапіў некуды ў цэнтр Еўропы. Кідалася ў вочы, што шмат старасвецкіх будынкаў накрыты чырвонай керамічнай дахоўкай. Акрамя, таго побач захавалася старая жылая забудова з тыповымі для Заходняй Беларусі дахамі. Агульнае ўражанне: паселішча колісь было ў руках добрага гаспадара.

Аскеркі вельмі вядомы на Беларусі магнацкі род. У аснове прозвішча цюркскае слова "оскер", што мае сэнс -- "воін", "ваяр".

Найноўшыя даведнікі згадваюць імя Яўгена Аскеркі (? -- 1946), беларускага вайсковага і палітычнага дзеяча. Да пачатку савецка-нямецкай вайны вучыўся ў Львоўскай політэхніцы. Пад час нямецкай акупацыі быў начальнікам паліцыі ў мястэку Ілля каля Маладзечна. Актыўны арганізатар беларускага падпольнага руху. Наведваў Глыбокае з мэтай стварэння глыбока закансперыраванай антынямецкай і антысавецкай арганізацыі БНП. Пасля прыходу бальшавікоў, праўдападобна, знаходзіўся на нелегальным становішчы. У 1945 -46 гг. сядзеў у камеры смяротнікаў Вілейскай турмы. Загінуў пад час спробы ўцёкаў з турмы.



Пару дзён таму, па службовых справах, давялося зноў наведаць Азерцы. Ад чырвоных дахаў нічога не засталося, сядзібныя будынкі атынкаваны "пад футра", якое ніяк не стасуецца ні з эпохай узвядзення будынка, ні з яго стылем. У цэнтры вёскі -- руіна будынка XIX ст., узведзенага з валуноў з разынкавай муроўкай. Памятаю яго, з высокім дахам, накрытым чырвонай дахоўкай, якім ён быў 25 гадоў таму. На дахоўцы быў адціснуты "лагатып" -- "Oskerko". Сваім выглядам будынак надаваў Азерцам рамантыку даўніны.

Мясцовыя жыхары паведамілі што будуць зносіць некалькі старадаўніх пабудоў і на іх месцы неўзабаве будзе ўзведзены касцёл. Ужо завозіцца цэгла.

Я сустрэўся са старшынёй Азерацкага сельсавета С. В. Анашкевіч, каб высветліць наколькі гэтая будоўля паўплывае на захаванасць помніка архітэктуры -- сядзібы Аскеркаў.

Святлана Вацлаваўна паведаміла, што сядзіба Аскеркаў радыкальных зменаў не пацерпіць. Адна з гаспадарчых пабудоў, дзе цяпер месціцца сталярка, будзе перададзена для патрэбаў касцёла і адрамантавана. Аднак вырашана знесці старую камянічку і на яе месцы ўзвесці храм. Нават меркавалася, што ён будзе на яе падмурках.

На пытанне, чаму нельга адрамантаваць камянічку, якая арганічна ўпісалася ў стары цэнтр Азерцаў, адкрыць тут кавярню, ці музей, старшыня сельсавета паведаміла, што адзін прадпрымальнік такую задуму меў, аднак агледзіўшы руіну, прыйшоў да высновы, што яна не падлягае рамонту, бо яна мае значную трэшчыну. Глядзелі гэты аб`ект і мясцовыя прарабы і прыйшлі да той самай высновы, што нават, калі замацаваць будынак анкернымі цягамі, выніку не будзе. На агульную думку многіх, касцёл трэба ўзводзіць на месцы гэтай камянічкі.

Чытачы могуць задаць пытанне, чаму аўтар артыкула хвалюецца за лёс нейкай старадаўняй камянічкі, у нас пабурылі і больш выдатныя помнікі даўніны: замкі, палацы, касцёлы і цэрквы?

Мая пазіцыя такая: не можа быць у нашай краіне вечным заняпад. Пройдзе час, да кіравання краіны прыйдуць новыя, таленавітыя людзі. Сітуацыя стабілізуецца, пачнецца ўздым у эканоміцы, культуры, у побыце людзей, зменіцца менталітэт . Вось тады і ўзнікне патрэба ў дасугу.

**Можна напісаць такі сцэнарый, які многім падасца фантастычным. Але мой досвед дазваляе сказаць, што такое, магчыма.**

Праз 10 -15 гадоў сядзіба Аскеркаў будзе адрэстаўрыравана ў прыгажосці сваёй навізны. У сядзібным доме -- музей і карцінная галерэя. У адноўленым парку -- прагульваюцца паўліны і фазаны. Па Азерцах раскатваюцца карэты ў духу XIX ст. са шчаслівымі экскурсантамі. У будынку, які раней меркавалася знесці, -- карчма, дзе наведвальнікі могуць пакаштаваць старадаўнія беларускія стравы, запіць добрым віном з азерацкага бровара.

Я разумею, што экскурсанты адмыслова з Мінска ці Брэста глядзець азерацкую сядзібу не паедуць. Аднак, нават сёння, экскурсанты са Слуцка, Наваполацка, Мінска, хоць зрэдку, але наведваюцца ў Глыбокае і Мосар. Таму Азерцы могуць у будучыні стаць часткай экскурсійнага маршрута па Глыбоччыне.

Якая выгада ад гэтага Азерцам? З`явяцца новыя рабочыя месцы ў сферы паслуг, патрэбны будуць кавярні, крамы, магчыма, і гасцініца. Жыхары пасёлка атрымаюць магчымасць зарабляць грошы.

На заканчэнне хацелася б нагадаць, што сёння пачалося актыўнае аднаўленне нашай старажытнай беларускай спадчыны. Напрыклад, у Віцебску аднаўляюцца два касцёлы, якія былі знесены ў 1930-ыя гг., неўзабаве паўстане пытанне аднаўлення Беразвецкага кляштара, помніка архітэктуры еўрапейскага значэння. Я думаю, што не варта спасылацца на мясцовых прарабаў, якія рэкамедуюць знесці старадаўні будынак, а пашукаць тых кансультантаў, якія параяць тэналогіі, паводле якіх можна адрамантаваць будынак.

І, апошняе, у г. Пулавы (Польшча), стаяла сярод горада нікому не патрэбная ваданапорная вежа. Яе таксама хацелі знесці. Знайшліся энтузіясты, якія перабудавалі вежу і зрабілі там абсерваторыю. Цяпер усе наведвальнікі Пулаваў імкнуцца паглядзець на зоркі.

У Азерцах узвышаюцца аж дзве паўразбураныя ваданапорныя вежы. Можа і, сапраўды, на месцы адной пабудаваць азерацкі касцёл, а другую аддаць мясцовай школе пад абсерваторыю.

З верай у лепшую будучыню Азерцаў, **Ул. Скрабатун**



**На здымку:** в. Азярцы. Сядзібны дом, другая палова XIX ст.



**На здымку:** фрагмент сцяны камянічкі з разынкавай муроўкай, папулярнай у XIX ст.




## Гараскоп 18.04 -- 24.04

**Авен (21.3 -- 20.4)** Не паддавайцеся сексуальным спакусам. І галоўнае, пільна сачыце за сваім фінансавым становішчам, паколькі залішняя эмацыянальнасць, пік якой даводзіцца на гэты тыдзень, можа перашкодзіць вам здзейсніць планы па нападзенню свайго кашалька. Спрыяльны дзень – 21, крытычныя 19,23.

**Цялец (21.4 -- 20.5)** Калі вы ніколі не кантралявалі свае ўчынкі, то цяпер час гэтым заняцца. Сачыце за мовай. Калі давядзецца выступаць перад аўдыторыяй альбо натоўпам мітынгуючых, бойцеся кінуць крывое слова ў бок сваіх апанентаў. Спрыяльныя дні – 18,24, крытычны – 21.

**Блізняты (21.5 -- 21.6)** Усё лепшае дадзена вам будзе ад калектыву. Не адлучайцеся ад групы таварышаў, у якой наспявае ідэя сусветнага перавароту. У адзіноце вы не дадумаецеся ні да якіх арыгінальных думак. У дзелавым плане з вас не атрымаецца ўдалы чалавек, таму лепш заняцца чым-небудзь гуманітарным. Спрыяльныя дні – 20,22, крытычны – 19.

**Рак (22.6 -- 22.7)** Ваша камунікабельнасць на ўзроўні міністэрства замежных спраў. Карыстаючыся выпадкам, вы можаце: а) палепшыць свае жыллёвыя ўмовы; б) уладкаваць свае мастацкія работы ў лепшыя зборнікі альбо галерэі; в) завесці сувязі, дзякуючы якім можна напрамкі з'язджаць за мяжу. Спрыяльныя дні - 18,24, неспрыяльны – 22.

**Леў (23.7 -- 23.8)** Чакайце дапамогі вялікага і багатага чалавека. Але і без яго ў вас на небакраі павышэнне па службе і прыбаўленне заробка. Нягледзячы на актыўнае свецкае жыццё, вам лепш за ўсё трымацца ў цені, не высоўвацца ў спрэчках, бойках альбо высвятленнях адносін. Спрыяльныя дні – 18,20, крытычны – 23.

**Дзева (24.8 -- 23.9)** Старайцеся менш кантактаваць з органамі бяспекі. Ваша разгаворлівасць абернецца для вас непрыемнасцю. Не рэкамендуецца шчыра гаварыць з суседкамі, сябрамі і начальнікамі. Шчасце ўсяго далейшага жыцця складуць для вас людзі абыдзеленыя і абсалютна безграшовыя. Спрыяльныя дні – 18,24, крытычны – 22.

**Шалі (24.9 -- 23.10)** Не вяртайцеся да мінулых спраў, не варушыце тое, што даўно ўжо не прыносіць прыбытку. Больш выгадней паставіць на новых людзей. У вас нечакана адкрыецца творчая крыніца, таму лепш за ўсё трымаць пад рукой абгрызак алоўка і кавалак паперы – раптам наваляцца геніяльныя вершы. Спрыяльны дзень – 20, крытычны – 19.

**Скарпіён (24.10 -- 22.11)** Нарэшце прыйшоў зорны час у вашым асабістым жыцці. І, калі вы яшчэ не носіце на пальцы шлюбнае колца, то прыйшоў час яго прымяраць. А акальцованым таксама перападзе крыху радасці з палюбоўнікамі. Магчымы і круты службовы раман. Спрыяльны дзень – 24, крытычны – 21.

**Стралец (23.11 -- 21.12)** Давядзецца разлічыцца за ўсе мінулыя даўгі і грахі. Непрыемны багаж будзе прыпыняць працу, грошы і каханне. Перапазычце грошы, але вярніце пазыку. А калі не зрабілі тое, што даўна абяцалі – лепш адыміце пару гадзін у сна, але давядзіце справу да канца. Спрыяльныя дні – 21,24, крытычны – 23.

**Казярог (22.12 -- 20.1)** Час заявіць аб сабе на поўны голас. Вы такі разумны, таленавіты, прыгожы, а ўвесь свет аб гэтым не здагадваецца. Спрыяльны выпадак днямі падвернецца – вы трапіце на зачыненую элітную вечарыну. Вось там і не разгубіцеся. Спрыяльныя дні – 20,24, крытычны – 21.

**Вадалей (21.1 -- 19.2)** Не хадзіце па старану. Тое, што заспакоіць душу, знаходзіцца дома, пад рукой. Добрасць і супакаенне прыйдуць ад дзяцей, старых альбо жывёл, ад тых, хто ніколі не дасць сэнс і не адбярэ зарплату. Спрыяльныя дні – 21,23, крытычны – 19.

**Рыбы (20.2 -- 20.3)** Інтэлектуальная праца ў вас не спыняецца. І, калі цела старээ з кожным сезонам, то розум становіцца ўсё ясней і ясней. Поспех у іншых інтэлектуалаў забяспечаны – вы праслывеце вострасловам і гумарыстам. Спрыяльныя дні – 18,24, крытычны – 22.

## Купон бясплатных абвестак

АДРАС/
ТЭЛ

Вольнае Глыбокае

*Для змяшчэння бясплатнай прыватнай абвесткі запоўніце купон, выражце і дашліце на адрас: вул. Шпітальная, 44, 211800, г. Глыбокае, альбо аддайце нашаму распаўсюджвальніку на рынку.*

## Падзяка

**Жадаем выказаць падзяку ветурачу калгаса імя Кірава**

*Галуза Раману Вячаслававічу*

Гэта вельмі добры, сумленны, спагадлівы чалавек і кваліфікаваны спецыяліст, які заўжды прыйдзе на дапамогу. Вялікі дзякуй Вам за Вашу дабрыню.

*Ядзвіга Русак, Цімафеева Людзміла і жыхары вёскі Ластавічы*

## Дарагія Оля і Багдан!



*Ад шчырага сэрца віншую вас з днём нараджэння. Жадаю вам моцнага здароўя, сямейнага шчасця, Божай ласкі для вашай сям'і.*

*Зміцер*

## Дарагі Алесь Касцень!

Ад усёй душы віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, плёну ў працы, шчасця ў асабістым жыцці, натхнення і ўдачы.



Тое, што жыццё дало нам магчымасць на цеснае супрацоўніцтва -- заканамерна. Глыбокае і Паставы зніталваны самім жыццём. Няхай жа будзе такім знітаваным і наша супрацоўніцтва.

*Супрацоўнікі "ВГ"*



"Вольнае Глыбокае"
Тыднёвік паўночна-заходняй Беларусі
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 1099, выдадзена Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Рэдактар і выдавец: п.п. Уладзімір Скрабатун, пасведчанне № 390000860 ад 20. 10. 99; тэлефон: 2 46 14; E-mail: vglybokaye@irex.minsk.by

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на "Вольнае Глыбокае" абавязковыя.

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень
Аб'ём -- 2 друкаваныя аркушы
Падпісана ў друк 16 красавіка 2002 г. у 10[00]
Наклад 1000 паасобнікаў
Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 2248